Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр.; за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 18 (70) | Вільня, 13-га ліпня 1935 г. | Год 3-ці.

## Новыя выбары.

Увосень сёлетняга году канчаецца 5-хгодні срок, на які былі выбраны цяперашнія Сойм і Сэнат і таму ў сёлетнім годзе адбудуцца новыя выбары ў Сойм і Сэнат. Але сёлета выбары адбудуцца на аснове новага выбарнага закону, які апрацаваны і прыняты Соймам і Сэнатам на надзвычайнай сэсіі ў чэрвені і ў пачатку ліпеня с. г.

Новы выбарны закон зьмяняе лічбу паслоў і сэнатараў, а таксама спосаб іх выбару, як і спосаб выбару Прэзыдэнта Польшчы.

Дагэтуль паслоў у Сойме было 444, а сэнатараў 111, цяпер-жа паслоў у Сойме будзе 208, а сэнатараў 96.

Выбары, як ведаем, дагэтуль адбываліся такім спосабам: пэўныя грамадзкія арганізацыі, пераважна палітычныя партыі, укладалі свае сьпіскі кандыдатаў ці то на паслоў, ці на сэнатараў і падавалі гэныя сьпіскі ў акружныя выбарныя Камітэты, апошнія-ж у парадку паступленьня гэных сьпіскаў вызначалі іх нумары. У дзень выбараў паасобныя выбаршчыкі галасавалі за той ці іншы сьпісак, падаючы адпаведны нумар. У залежнасьці ад колькасьці атрыманых пэўных нумароў тэй ці іншай партыі выбіраліся на паслоў ці сэнатараў кандыдаты гэнай партыі. Акром таго, большыя партыі, якія праводзілі сваіх кандыдатаў у некалькіх выбарных акругох, атрымоўвалі права ўвясьці адпаведную колькасьць сваіх кандыдатаў на паслоў ці на сэнатараў з дзяржаўнага сьпіску (z listy państwowej). Такім чынам стары выбарны закон даваў перавагу большым партыям.

Ад кожнага выбарнага вокругу выбіралася некалькі паслоў і ад кожнага ваяводзтва некалькі сэнатараў (колькасьць была неаднолькавая) — прыкладам, ад лідзкага вокругу выбіралася 7-х паслоў, ад віленскага ваяводзтва 4-х сэнатараў і г. д. Спосаб выбіраньня па новаму закону паслоў у Сойм і сэнатараў у Сэнат неаднолькавы і дзеля таго разгледзім сьпярша спосаб выбіраньня паслоў у Сойм, бо-ж пры гэтых выбарах шмат больш выбаршчыкаў, тады як пры выбарах у Сэнат колькасьць выбаршчыкаў зьменшана і самае галасаваньне адбываецца інакш.

Згодна з новым законам уся Дзяржава дзеліцца на 104 выбарныя акругі і ад кожнага вокругу выбіраецца 2-х паслоў, а ўсіх паслоў 208. У ва ўсходніх ваяводзтвах будуць такія акругі: 2 у Вільні, 1 ў Горадні, у Глыбокім, у Ашмяне, у Лідзе, у Навагрудку, у Берасьцю, у Кобрыне, у Пінску, у Луцку, у Ковелю, у Сарнах, у Роўным і ў Крамянцы.

Сьпіскі кандыдатаў на паслоў у Сойм укладаюць у кожным вокругу асобныя акружныя сабраньні, у склад якіх увойдуць: 1) прадстаўнікі самаўрадаў, выбраныя радамі павятовымі (1 прадстаўнік на 20.000 жыхароў павету), гмінными (2 прадстаўнікі ад гміны, у якой 6.000 жыхароў і 1 прадстаўнік ад іншых гмінаў) і гарадзкімі (1 прадстаўнік на 4.000 жыхароў у выдзеленых гарадох і на 6.000 жыхароў у іншых гарадох); 2) прадстаўнікі гаспадарчых самаўрадаў і прафэсыянальных арганізацыяў,як прадстаўнікі ізбаў ральнічых, ізбаў прамыслова-гандлёвых, ізбаў рамясьнічых і прафэсыянальных саюзаў.

У гарадох, дзе жыхароў больш 75.000, у склад акружных сабраньняў уваходзяць прадстаўнікі, выбраныя ізбай дактароў, ізбай адвакатаў, ізбай натарыюсаў, саюзам тэхнікаў і прадстаўніцы жаночых арганізацыяў.

Акром таго, кожныя 500 выбаршчыкаў з аднаго вокругу могуць пасласць у акружныя сабраньні 1 прадстаўніка, сьцьвердзіўшы перад гэтым у натарыюса свае подпісы з аплатай 10 гр. ад асобы на пададзенай заяве.

У тых акругох, дзе ёсьць вышэйшыя школы, у склад акружных сабраньняў уваходзяць і прадстаўнікі ад гэтых школаў.

Кожны ўчаснік акружнога сабраньня мае права падаць кандыдата на пасла. На падставе заяваў учаснікаў старшыня сабраньня ўкладае сьпісак пададзеных кандыдатаў. Калі пададзена толькі 4-х кандыдатаў, то ўсе яны ўпісываюцца ў кандыдацкі сьпісак Калі-ж кандыдатаў пададзена больш за 4-х, то адбываецца галасаваньне, і ў кандыдацкі сьпісак ўпісываюцца ўсе, хто атрымаў ня менш адней чацьвертай часткі галасуючых.

Калі будзе ўкладзены кандыдацкі сьпісак, сабраньне такім-жа спосабам укладае сьпісак заступнікаў кандыдатаў на паслоў.

Кожны кандыдат можа кандыдаваць толькі ў вадным выбарным вокругу.

Ня могуць быць кандыдамі ў выбарных акругох дзе нясуць службу: ваяводы, і падпарадкаваныя ім урадоўцы, пракуроры судоў (за выняткам пракурораў Найвышэйшага Суду), куратары школьных акругоў і падпарадкаваныя ім начальнікі аддзелаў, візытатары і школьныя інспэктары, дырэктары скарбовых ізбаў і падпарадкаваныя ім урадоўцы, ахвіцэры і паліцыянты дзяржаўнай паліцыі.

Права галасаваньня да Сойму мае кожны грамадзянін (ка) дзяржавы,якому (ой) кончылася 24 гады. Выбраным можа быць кожны грамадзянін (ка) дзяржавы, якому (ой) кончылася 30 гадоў.

Выбары адбываюцца ў нядзелю; прадвыбарчы пэрыяд, г. зн., час ад распараджэньня аб выбарах да дня галасаваньня будзе мець ня менш 54-х і ня больш 60-х дзён.

Дзеля правядзеньня выбараў вызначаюцца гэнэральны выбарны камісар, а таксама акружныя і абвадовыя выбарныя камісіі.

Пры галасаваньні кожны выбаршчык атрымае ў памешканьні абвадовай камісіі ўрадовую картачку і канвэрт да галасаваньня. На картачцы будуць надрукаваны прозьвішчы кандыдатаў на паслоў. Атрымаўшы такую картачку, выбаршчык азначае рыскамі прозьвішчы тых двух кандыдатаў, за якіх хоча падаць голас. Калі аддасьць картачку бяз ніякіх адзнакаў, то гэтым падае голас за першых двух кандыдатаў са сьпіску.

Важнай будзе лічыцца толькі картачка з пячаткай і ўложаная ў атрыманы ад камісіі канвэрт.

З кароткага разгляду новага закону аб выбарах у Сойм бачым, што пры новых выбарах палітычныя партыі ня будуць адыгрываць тэй ролі, якую яны мелі пры папярэдніх выбарах, затое значны ўплыў пры выбарах могуць мець самаўрады.

*(Працяг будзе).*

## Прамова польскага міністра замежных справаў Бэка.

У залях польскага пасольства ў Бэрліне мін. Бэк сказаў вялікую прамову, скраваную да запрошаных прадстаўнікоў нямецкае прэсы і заграні́чных корэспондэнтаў. Было прысутных каля 100 журналістаў. У прамове сваёй мін. Бэк падчыркнуў тое, што бяз супрацоўніцтва прэсы было-б немагчыма асягнуць тых рэальных рэзультатаў, якія за апошнія два гады былі асягнены між Польшчаю і Нямеччынай. Як выяўленьне гэтага, была заключоная спэцыяльная згода.

„З прыемнасьцяй падчырківаю,—казаў мін. Бэк,—што ад моманта падпісаньня дэклярацыі ад 26 студзеня 1934 г., мы значна пасунуліся наперад на дарозе ўзаемнага пазнаньня і разуменьня. Я сам прыдаю вялікае значэньне асабістаму контакту між прадстаўнікамі прэсы абедзьвюх дзяржаваў і дзякую п. п. журналістам за іх прыбыцьцё.

Я быў вельмі задаволены, што меў магчымасьць скарыстаць з запросінаў нямецкага ўраду.

Польшча была глыбака закранена агульным спачуцьцём, выяўленым усёю Нямеччынай на чале з канцлерам Гітлерам па прычыне нацыянальнай жалобы ў нашым краі. Я ўчора асабіста злажыў падзяку канцлеру Гіглеру ад імя пана Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі.

Нашая даволі доўгая гутарка з канцлерам абняла як польска-нямецкія суадносіны, так і агульныя палітычныя пытаньні якія цікавяць абодва урады. Гэтая гутарка зьяўляецца важным позытыўным вынікам на той дарозе, якая была намечана ў дэклярацыі 26 студзеня 1934 г. Рэзультатам гэтае згоды зьяўляецца ня толькі палепшаньне нашых узаемных адносінаў, але і захаваньне і падтрыманьне пакою наагул. Нават асобы, якія крытычна адносіліся да згоды 26 студзеня 1934 г., павінны пераканацца ў тым, што гэтая згода зьяўляецца элемэнтам агульных высілкаў захаваць пакой у Эўропе і павінна быць прынята ня крытычна, а з удзячнасьцяй.

Прашу Вас, паведамце чытачоў, якое добрае ўражаньне зрабіла на мяне і маю жонку сардэчнае спатканьне ў Бэрліне.

Няма патрэбы падчырківаць,—казаў далей мін. Бэк, — як я ўсьцешыўся магчымасьцяй спаткацца ў Бэрліне з маім колегам Ф. Нойратам, з прэм'ерам Гэрынгам і міністрам Гэббэльсам, каторыя не зьяўляюцца няведамымі ў Польшчы“.

У канцы прамовы мін. Бэк яшчэ раз падзякаваў журналістам за прыбыцьцё і пажадаў ім пладатворнай работы над зьбліжэньнем абодвух народаў.

Прабываньню ў Бэрліне кіраўніка польскай замежнай палітыкі прыдаюць агульна-эўрапэйскае значэньне. Француская прэса выразна падчырківае з праяўленьнем пэўнай нэрвовасьці, што прыезд мін. Бэка ў Бэрлін ня ёсьць звычайным, як вымагае добры тон, рэвізытам. Прамова мін. Бэка сьведчыць аб тым, што гутаркі адбываліся ў прыяцельскай атмосфэры і што ўзгоднена польска-нямецкае супрацоўніцтва ў міжнароднай палітыцы. Польшча што раз далей адыходзіць ад Францыі — кажа адна з францускіх газэтаў, — і ўсё больш зьбліжаецца да Нямеччыны. Прыязьнь гэта, ня гледзячы на першапачатковы крытыцызм, ператвараецца з сэзоннае ў сталую, што падчырківаюць таксама і нямецкія газэты.

# Нашы уборы.

Па маёй думцы, мы не звarочваем належнай увагі на адзін бок нашага жыцьця, гэта на нашыя нацыянальныя вопраткі. Ведама, што шмат-дзе ў нашых вёсках да апошняга часу перахаваўся даўнейшы звычай убірацца ў свае самадзялковыя тканіны. Ня кажучы аб будніх днёх, у сьвята, прыкладам, у такой вёсцы амаль не спаткаем мужчыны ці жанчыны, якія былі-б убраны ў нейкія „крамніны", наадварот, як кажуць, „з ног да галавы" людзі маюць на сабе ўсё свайго собскага вырабу. Але спатыкаюцца і такія вёскі, асабліва бліжэй да гарадоў, дзе людзі, пераважна моладзь, пачынаюць ганяцца за модай. Тут дзяўчына хоча выглядаць „паненкай", а дзяцюк „панічом", дзеля чаго напяльваюць на сябе розныя „крамныя тандэты". Зусім зразумела, і ў гэтым няма нічога благога, што кожны хоча ўбрацца як найлепш. Блага толькі тое, што ня кожны можа і ня кожны ўмее ўбрацца запраўды прыгожа, і часам такая вопратка так чалавеку пасуе, „як карове сядло". Каб добра і са смакам убрацца, трэба ўмець і трэба над гэтым падумаць. Вось-жа, па маёй думцы, замест розных „крамных тандэтаў" ці ня лепш было-б браць прыклад з гэтых вёсак, дзе моладзь так хораша ўмее ўбірацца ў свае самадзялковыя тканіны, асабліва-ж варта над гэтым падумаць нашым дзяўчатам. Ці-ж можа быць, прыкладам, што-небудь прыгажэйшае для нас за нашыя вышываныя блюзкі ў дзяўчат і сарочкі ў хлапцоў? Пэўне-ж, не. А чаму? Ды таму, што нашая адзежа адбівае ў сабе нашую душу, наш характар, нашае жыцьцё.

Як цяпер ужо амаль не спаткаем сярод нашых сялян такіх, якія-б саромяліся сваёй мовы, так трэба, каб усюды і ўсе глядзелі-б з пашанай і на свае нацыянальныя ўборы.

Танная крамніна і не такая прыгожая ды й не такая моцная, як нашыя, свае тканіны.

Гэта зразумелі навет у горадзе, дзе апошнім часам шмат людзей пачало ўбірацца ў нашыя вясковыя тканіны. Замест даўнейшых дываноў на сьценах цяпер вісяць усюды нашыя беларускія посьцілкі, а гарадзкія паненкі ды пані шыюць сабе вельмі прыгожыя сукенкі з нашага вясковага палатна.

За апошні час у некаторых мясцох нашая жанчыны навучыліся ткаць такія прыгожыя і посьцілкі, і андаракі і навет коўдры як з лёну, так і з воўны, што выклікаюць захопленьне і зьдзіўленьне ў кожнага, хто гэныя вырабы ўбачыць...

Дык не ганяйцеся за хвалшывай модай без патрэбы, а бярэце прыклад з тых, якія захавалі ў сабе пачуцьцё нацыянальнага гонару, для якіх усё сваё роднае найдаражэйшае.

*В.*

# Новы закон аб ахове працы ў Амэрыцы.

Паводле весткі „Юнайтэд Прэсс" з Вашынгтону, прэзыдэнт Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Рузвэльт падпісаў вагнэраўскі біль, стаўшы гэткім чынам законам.

Прафэсіянальныя работніцкія саюзы вельмі энэргічна дабіваліся гэтага закону, які ў Амэрыцы ўжо празвалі „вялікаю хартыяй вольнасьцяў" работнікаў.

Наколькі работнікі энэргічна дамагаліся выданьня гэтага закону, настолькі-ж працадаўцы працівіліся гэтаму.

Згодна з новым законам, перагаворы аб тарыфах вядуць выбарныя прадстаўнікі работнікаў. Там, дзе прафэсіянальныя саюзы прадстаўляюць большасьць работнікаў, ім належыць выключнае права вядзеньня перагавораў з прадпрыемцамі па пытаньню аб заработнай плаце, даўжыні рабочага часу і г. д.

Далей вагнэраўскі закон забараняе цэлы рад „нясуменных спрытных абходаў" яго. Гэтак, напрыклад, прадпрыемцам забараняецца рабіць, шляхам прымусу або іншымі спосабамі, недапушчальны націск на работнікаў і іхных прадстаўнікоў у часе вядзеньня пераговараў аб заработнай плаце. Закон забараняе прадпрыемцам рабіць уплыў на прафэсіянальныя саюзы цераз фінансаваньне іх, забараняе таксама ўстрымліваць работнікаў ад паступаньня ў прафэсіянальныя саюзы, адмаўляцца ад вядзеньня перагавораў з прадстаўнікамі работнікаў, звальняць работнікаў з працы за выступаньне ў новаўстанаўляных трацейскіх судох і інш.

Важным пунктам новага закону ёсьць устанаўленьне дзяржаўнае камэры працы; сябры гэтае камэры назначаюцца прэзыдэнтам і атрымліваюць шырокія поўнамоцтвы.

Гэтая камэра сочыць за тым, каб работнікі ў асобных прадпрыемствах карысталіся належнымі ім правамі. У выпадку канфлікту паміж работнікамі і працадаўцамі, камэра працы можа запрашаць сьведкаў і мае права вясьці шырокае расьсьледаваньне. Камэра працы можа даваць асобным прадпрыемствам павучэньні, а калі гэтыя павучэньні ня будуць спаўняцца, дык камэра працы можа зьвяртацца да апэляцыйнага суду з просьбаю прымусіць тое ці іншае прадпрыемства спаўняць яе загады.

Арганізацыі прадпрыемцаў — нацыянальная фэдэрацыя фабрыкантаў і амэрыканская гандлёвая камэра перайшлі да вострае опозыцыі да новага закону. У стальной, гумовай, самаходнай і тэкстыльнай галінах прамысловасьці прадпрыемцы рыхтуюцца перашкодзіць выбарам работнікамі сваіх прадстаунікоў.

Працадаўцы выказваюць упэўненасьць, што вярхоўны суд прызнае вагнэраўскі біль, таксама, як і ранейшы закон аб г. зв. НРА, нязгодным з амэрыканскаю конституцыяй, бо фэдэральны ўрад у Вашынгтоне ня мае права рэгуляваць варункаў працы ў паасобных штатах.

Амэрыка — краіна як найшырэйшае прыватнае ініцыятывы капіталістых і ня дзіва, што каралі капіталу зьбіраюцца працівіцца рашучым рэформам прэзыдэнта Рузвэльта ў кірунку дзяржаўнага рэгуляваньня адносін паміж сьветам працы і капіталам.

Правы амэрыканскага прэзыдэнта вельмі вялікія: ён назначае сабе дзяржаўных сэкрэтароў (міністраў), адказных перад ім, а не перад парлямэнтам, і гэткі ўрад кіруе, ад імя прэзыдэнта, жыцьцём магутнае заатлянтычнае рэспублікі — уніі паасобных штатаў. Аднак, калі вярхоўны суд прызнае якое-небудзь распараджэньне прэзыдэнта спрэчным з конституцыяй, дык распраджэньне гэткае ня можа мець сілы закону і нікога ня можа абавязваць спаўняць яго.

Якое рашэньне вынясе гэты ўсясільны ў Амэрыцы стораж права аб новым законе па ахове працы, пакажа будучыня. Характэрна аднак жа, што і Амэрыка, ідучы за ўзорам перадавых краінаў Эўропы, мусіць уводзіць фармальную апеку над працай, якую спаўняў дасюль кожны прадпрыемца, як сабе сам хацеў.

# Паварот да „романтычнага каханьня".

Замежная прэса ўсё з вялікшаю ўвагаю прыглядаецца да таго, што адбываецца ў СССР. З нарастаньнем падзеяў у Саветах, з разьвіцьцём опозыцыйных і яўна контр-рэвалюцыйных настрояў, зьяўляюцца, як нашым чытачом ужо ведама, і новыя загады ўлады, часта адмяняючыя тое, што ўчора пастанаўлялася той-жа ўладаю, як бясспрэчныя праўды.

Чарговым пытаньнем на савецкім парадку дня зьяўляецца паварот на 180 градусаў у сямейнай праблеме. Паварот гэты знайшоў сваё адбіцьцё таксама і ў замежнай прэсе. Між іншымі газэтамі „Нью Гэральд" піша:

Некалькі гадоў назад лічылася-б контр-рэвалюцыяй прапазыка выхоўваць савецкіх дзяцей у пашане да бацькоў. Наадварот, вымагаліся ад іх грубасьць і даносы на сваіх бацькоў у ГПУ. Сяньня дзяржава пачынае адмаўляцца ад гэтай безабароннай пазыцыі. Рамантычнае каханьне ўважалася буржуазным перажыткам, падлягаючым выкараненьню. Цяпер жа саветы высоўваюць „Ромэо і Джульетту" як прыклад „праўдзівага каханьня". Савецкая дзяржава ня можа справіцца са спросам з боку жанчын на косметыкі. Джас банд*), які яшчэ нядаўна быў забаронены, сяньня гучыць каля маўзалею Леніна, і натаўп танцуе фокстрот, за што два гады назад можна было яшчэ трапіць у ссылку.

Прыяцелі камуністычнага досьледу скажуць, што, відаць, другая пяцілетка надзвычай добра ўдаецца і таму рабочым можна дазволіць скарыстаць з яе пладоў. Другія знойдуць у гэтых падзеях доказ таго, што дзяржава паступова здае свае пазыцыі. *Як-бы там ня было, даказана, што соцыяльная пляніроўка няздольная зьмяніць прыроду чалавецтва*" (курсыў наш—Рэд.)

Другімі словамі, курчова чапляючыся за ўладу, чырвоная вярхушка ідзе на ўступкі цаною ломкі „генэральнай лініі" і падлабуніваецца пад настроі народных масаў. Настроі-ж гэтыя ад „генэральнай лініі", як відаць, вельмі далёкія і разьвіваюцца не па ёй, а супярэчна з ёю. Ці ўратуюць палажэньне ўладаў загады аб „романтычным каханьні" — пакажа будучыня.

*) Асобы род музыкі, якая прыйшла да нас з Амэрыкі.

Юры Горліс-Горський.

# Гэта было даўно...

(Пераклад з украінскага К. М.).

(Гл. № 17 „Роднага Краю").

Яны прыпрошвалі і мяне выпіць чарачку, але я сказала, што пабягу яшчэ да суседкі па соленыя агуркі, а пакуль вярнуся — хай частуюцца самі. Яшчэ перад гэтым, я няпрыметна ўзяла яго браунінг, вось гэты самы, што дасюль мне верна служыць. Было ўжо позна. Я выбегла на двор, выйшла з гораду і пайшла ў глухую ноч, сама няведаючы куды.

З часам, калі ўжо прыстала да аддзелу Лютага, даведалася ад Елісаветградзкіх людзей, што шэсьць з тых, якіх я «пачаставала", у тым ліку і мой муж,—у тойжа самы вечар паздыхалі. Нейкім цудам застаўся адзін з гасьцей.

З тым аддзелам паўстанцаў я прыйшла ў Халодны Яр і пастанавіла застацца з вамі. Далей ты ўжо сам ведаеш.

Оля неяк вінавата глянула на мяне і затуліла вочы рукою.

Адвёўшы лагодна тую руку, пацалаваў яе, яшчэ вільготныя ад сьлёз, вочы. Пасьля, абдурыўшы яе рухам галавы, пацалаваў цёплым пацалункам у вусны.

— Юры! Што робіш?! Пакінь...

— Нічога, Оля... Супакойся... Усё будзе добра. Лепш слухай, што я табе скажу. Ты за кароткі час зрабіла для нашае справы шмат. Больш, як кожны з нас. У нас у штабе ёсьць захопленыя ў бальшавікоў залатыя грошы, даляры, штэрлінгі, што чэкісты ў „буржуяў" пазабіралі.

Мы табе дамо вялікую суму і пераправім цябе за кардон.

Оля заперачальна хіснула галаваю.

— Не, Юры. Барацьбы я не пакіну. Калі мы не пераможам хутка, дыкя напэўна ў ёй загіну... Я ня шукаю сьмерці. Я хачу жыць і быць здароваю. Я крыху вінаватая... Тады, як іншыя барол іся за справу, я была таварышом ворага. Ведаючы, што тут боруцца і гінуць у барацьбе, я не магла-б жыць спакойна за кардонам і турбавацца толькі сваім здароўем.

— Але-ж мы цябе прымусім. Ты ня можаш не паслухаць загаду штабу.

— Не паслухаю. Выдаліць мяне з сваіх лаваў вы можаце толькі тады, як перастанеце мне верыць. Але тады мусілі-б мяне забіць. А вы мне верыце і я тут патрэбна.

Пакіньма гэтую размову... Давай лепш будзем спаць. Ужо позна.

——

Раненька, ужо апрануўшыся, сядзелі мы з Оляю і абгаварвалі плян сяньняшняга дня. Урэшце, вельмі „раненька" ўжо ня было, бо мы чулі, што Ганя, вярнуўшыся ад каровы, гаварыла з гаспадаром, што пара ўжо сьнедаць. Неспадзявана дзьверы знадворку рыпнулі і ў кухні пачуўся голас Сэндэра:

— Ну, бандыт, дзе той кулямёт, што ты два тыдні таму папраўляў?

— У мяне ня было ніякага кулямёта. Гэта нехта наплёў, — пачуўся ў адказ схвалёваны голас гаспадара.

— А! ня было! — Зараз будзе! Вяжы яго, Сіры!

Оля сьціснула мне руку і моўчкі набіла браунінг. Я нарыхтаваў сваё кольты. З кухні далятаў нерашуча пратэставаўшы голас гаспадара і трох міліцыянэраў. Тры — яшчэ невялікая бяда, але мо' на дварэ ёсьць больш. Тады „слова забярэ" граната... Ціханька падходзім і становімся пад сьцяною каля дзьвераў.

За дзьвярыма пачуўся ўдар і было чуваць, як гаспадар з глухім стогнам упаў на зямлю. Адначасна разьлёгся спалоханы голас Гані і Дузі. Сэндэр біў ляжачага гаспадара нагою ці кольбаю і разьюшаным голасам крычаў, каб прызнаваўся, дзе кулямёт. Раптам Ганя, кінуўшыся з адчайным крыкам да Сэндэра, пачала бараніць мужа.

Начальнік міліцыі пакінуў гаспадара і ўзяўся за гаспадыню, абсыпаючы яе гадкаю лайкаю. Пасьля кароткай барацьбы, Сэндэр адчыніў дзьверы ў наш пакой і папхнуў праз іх расхрэстаную Ганю.

— Зараз мы з ім управімся і я да цябе прыйду... Агледжу цябе. як там тваё сэрца...—дадаў з цынічным сьмехам і зачыніў дзьверы.

Ганя заламала рукі і распачліва глянула на нас. Даўшы Олі знак вачыма, раблю два шагі і з размаху ўдараю нагою ў дзьверы.

— Ты ізноў!..—кінуўся мне насустрэчу Сэндэр, але раней чымсь ён спахапіўся, што я — ня Ганя, паднімаю кольт да яго вачэй і націскаю курок.

Уся верхняя часьць яго галавы, размазгованая тоўстаю „дум-дум", паляцела на сярэдзіну хаты. Пераступаючы праз труп, валю другім стрэлам Сірага, што астаўпелы стаяў над ляжачым гаспадаром.

## Італьянска-абісынскі канфлікт завастраецца

У канцы жніўня мае адбыцца пасдежаньне Рады Лігі Нацый. На парадку дня пастаўлены між іншымі справамі і італьянска абісынскі канфлікт. Англія, якая зацікаўлена ў гэтым пытаньні, робіць усе высілкі, каб не дапусьціць да вайны Італіі з Абісыніяй. Па словам прэсы намеры Англіі спатыкаюць што раз больш перашкодаў. Брытанскі пасол Клерк гутарыў 3 разы ў працягу 5-цёх дзён з прэм'ерам Лявалем у справе гэтага канфлікту. Пасол пераконваў францускага прем'ера ў неабходнасьці захаваньня агульнага фронту дзяржаваў у Женэве па пытаньні аб Аісыніі, але як кажуць, пацярпеў няўдачу. Па словам „Дэйлі Гэральд", Францыя катэгарычна адмовілася выступіць разам з Англіяй проціў Італіі.

Нэгатыўная пазыцыя Францыі ў адношаньні да Англіі тлумачыцца як рэакцыя на ангельска-нямецкі марскі дагавор. Парыжскі корэспондэнт „Дэйлі Экспрэсс" паведаміў Лёндан, што Францыя напэўна ня прыйдзе Англіі з дапамогай у яе становішчы адносна Італіі, бо яна зьвязала сабе ўжо рукі.

З добра асьведамленых крыніцаў, я толькі што даведаўся,—кажа корэспондэнт,—што *між Францыяй і Італіяй заключоны важны ваенны дагавор.* Намечана францускa-італьянская пагранічная лінія, ідучая ад Рэйну да Брэннэру З францускa - італьянскай граніцы войска аднэй і другой дзяржавы зьнімаюцца. Гэта было пастаноўлена ў вялікім сэкрэце на рымскай нарадзе ген. Гамлэна з марш. Бадоліо.

*Францыя прызнала так-жа сувэрэнітэт Італіі над малым скалістым востравам Думэтра, каторы ляжыць пасярэдзіне Баб-эль-Мандэбскага праліву.* Італьянскі ўрад прыступіў да ўзмацненьня гэтага вастраўка, з каторага ён мае надзею зрабіць *Гібралтар Чырвонага мора.* Італьянскі ўрад уважае, — як паведамляе „Рэйтэр", — што арбітраж Лігі Нацый у справе італьянска-абісынскага канфлікту да нічога ня прывядзе і дзеля гэтага *вайна павінна пачацца 25 жніўня*, г. зн., да паседжаньня Рады Лігі Нацый. Апошняя такім чынам будзе пастаўлена перад дакананым фактам.

Становішча Францыі і адмова Амэрыкі (да якой зьвярнулася Абісынія аб падтрыманьне яе перад Італіяй) умяшацца ў абісынскія справы зрабіла сільнае ўражаньне ў Англіі. У грамадзкай апініі пачынае пераважаць жаданьне ня ўмешвацца ў спрэчку і пакінуць Абісынію яе лёсу. Для канчальнага выясненьня сваёй пазыцыі ангельскі ўрад прыдае вялікае значэньне гутарцы Бальдвіна, Хора і Ідэна з Авэнолем, які 8 г. м. прыехаў з Італіі ў Лёндан.

Як-жа на ўсё гэта заглядаецца Абісынія. „Журналь д' Італія" піша, што абісынскі ўрад *маніцца пачаць агрэсыўнае дзеяньне проціў італьянскіх калёніяў у Афрыцы, каб Італію заатакаваць непрыгатаванай.* Павадыры абісынскіх пляменьняў пераконаны, што Англія прыдзе ім з помачай дзеяньнямі ў Сомалі, дзе перабудоўваюцца дарогі, узмацняюцца ваенныя пункты, прыводзіцца ў парадак шлях Бэрбэра, праз каторы ідуць транспарты ваеннага матэр'ялу ў Абісынію.

Сапраўды цікавы абразок: Абісынія сваё, Італія сваё, Англія з Францыяй праводзяць, карыстаючыся гэтым канфліктам, свае асабістыя парахункі, а над цэласьцю опэрэткавая Ліга Нацыяў, якая, як прастарэлая бедная маці, ня можа даць сабе рады з вырасшымі і набраўшымі сілы дзяцьмі.

*А.*

**Пашырайце нашу газэту.**

## Апошнія прыгатаўленьні да вайны

У Эгіпце цьвердзяць, што італьянцы і абісынцы пасьпешна ўзмацняюць італьянска-абісынскую граніцу. У порт Судан штодня прыбываюць вялікія італьянскія караблі для нагрузкі закупленых італьянскімі агентамі коняў, збожа і сьвежай для піцьця вады.

З Эгіпту ўцякаюць у Эрытрэю і Сомалі безработныя, якія жадаюць зарабіць на работах па будове цьвярдыняў, дарог і т. д. У Эрытрэі работы па будове стратэгічных дарог (800 клм.) будуць скончаны ў пачатку лістапада. Да гэтага часу будуць скончаны работы і па ўзмацьненьню італьянскага Гібралтару ў Чырвоным моры — вострава Думэнты.

## Італьянскія варункі „заключэньня міру".

З Лёндану паведамляюць, што італьянскі пасол прадставіў ангельскаму мін-ву замежных справаў проект палюбоўнага рашэньня італьянска-абісынскага канфлікту. Як кажуць, італьянскія варункі наступныя: *устанаўленьне італьянскага кантролю ў абісынскай Эрытэі і прызнаньне Італіі выключных прывілеяў ў гаспадарчым і палітычным адношаньні ўва ўсей Абісыніі.*

Згодна з італьянскімі весткамі, Англія ня згодная падтрымаць гэтыя дамаганьні Італіі.

## Шляхі Нямеччыны да згоды з Францыяй

У дыплёматычных колах уважаюць, што Нямеччына імкнецца ўсімі сіламі як можна хутчэй асягнуць згоды з Францыяй і прыняла тактыку пужаньня яе: хай Францыя дабравольна прыступіць да згоды з Нямеччынай, а не — дык будзе да яе змушана.

Корэспондэнт „Эссэнэр Цтг". з Парыжу піша, што пазыцыя Францыі цяпер слабейшая, чымсь раней, але ўсё-ж Францыя маглабы свабодна гутарыць з Нямеччынай. „Кожны дзень пагаршае, — піша коррэспондэнт, — палажэньне Францыі і можа прыйсьці момант, калі Францыя будзе змушана да перагавораў, бо разьвіцьцё палітычных падзеяў паказала, што палітыка акружэньня Нямеччыны аказалася нерэальнай, а роля і значэньне Нямеччыны расьце ўва ўсім сьвеце".

Гэткі дыктатарскі тон у адношаньні да Францыі дагэтуль яшчэ не спатыкаўся ў нямецкай прэсе.

# З краю.

## Распушчэньне Сойму і Сэнату.

Учора п. Прэзыдэнт Рэспублікі І. Мосьціцкі падпісаў дэкрэт аб распушчэньні Сойму і Сэнату. Дэкрэт п. Прэзыдента кажа:

„Самым важным заданьнем апошняй сэсіі законадаўчых Палатаў была апрацоўка новага дзяржаўнага строя.

Гэтая работа, маючая найважнейшае значэньне для будучыні Рэспублікі, выканана. Але новая Конституцыя прадугледжвае іншы склад законадаўчых палатаў, чымся сяньняшні, і дзеля гэтага на аснове 13 артыкулу конституцыі абвяшчаю аб распушчэньні Сойму і Сэнату.

## Пазыцыя ўкраінцаў.

Львоўскія ўкраінскія газэты зьмясьцілі рад артыкулаў, выясьняючых пытаньне аб удзеле ўкраінцаў у маючых адбыцца выбарах у парлямэнт. У газэце „Діло", органе УНДО, піша пасол Хруцкі, што для ўкраінцаў рашучае значэньне мае ня новы закон, але практычнае захаваньне дзяржаўнай адміністрацыі ў часе выбараў дэлегатаў у т. зв. выбарныя сабраньні. Пакуль што, кажа пасол Хруцкі—*украінцы павінны энэргічна прыгатаўляцца да выбараў*, на каторыя павінны пайсьці такжа і з той мэтаю, каб у сваіх нававыбраных паслах мець *прадстаўніцтва і на міжнародным форуме.*

Такія-ж погляды выяўляе тыднёвік „Мэта", орган украінцаў, якія гуртуюцца каля Мітрапаліта Шэптыцкага.

## 18.V.35 у в. Люшнева каля Баранавічаў.

Хачу падзяліцца з чытачамі газэты „Роднага Краю", як у нашай вёсцы прайшоў дзень 18 траўня г. г., дзень глыбокай жалобы польскага народу з прычыны сьмерці яго Першага Маршалка Я. Пілсудскага.

Мы сяляне в. Люшнева добра ведаем аб тых заслугах і ахвярах, якія Маршалак Пілсудскі прынёс на аўтар свайго краю і таму, шчыра спачуваючы польскаму народу, пастанавілі разам з усёй Польшчай ушанаваць памяць гэтага вялікага чалавека, які адыйшоў ад нас на заўсёды.

17 траўня, увечары сабраліся ўсе гаспадары нашае вёскі і рашылі, што заўтра ніхто ня пойдзе працаваць у поле. 18 траўня раніцаю загудзелі званы нашай вясковай царквы. А 9 гадзіне пачалося заўпакойнае багаслужэньне. Па сярэдзіне царквы быў пастаўлены партрэт Памёршага, прыбраны жалобаю і зеленьню. Уся вёска была прысутнай. Скончыўшы багаслужэньне, сьвяшчэньнік сказаў прамову аб жыцьці і заслугах Маршалка, пасьля чаго быў адчытаны маніфэст Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі. Прамову і маніфэст прысутныя выслухалі з павагай. Пасьля выхаду з царквы была праведзена зборка ахвяр на капец Маршалка Пілсудска. Сабралі каля 10 зл.

*Дзядзька Сымон.*

# Маленькі фэльетон.

### Тлумачэньне хадэцкіх фокусаў.

Кожны фокус, роблены рукамі якога-небудзь чараўніка, здаецца нам дзіўным. А калі, часам, на разьвітаньне з публікаю ў цырку або тэатры, фокусьнік сам вытлумачыць, як гэта ўсё ў яго спрытна выходзіць, дык шчыры сьмех бярэ кожнага, ад таго, што ўсё гэтак *простае*, а зьдзіўляла нас таму, што ня было *ясным.*

Нешта падобнае ёсьць у палітыцы нашых хадэкаў. Не пазнаёміўшыся з кулісамі хадэцкае „батлейкі", наш селянін, няведаючы часам у чым рэч, спакойна спажывае тую посьненькую, убогенькую, як сама доля беларуская, „духовую" страву, якая даходзіць да яго з двушрыфтовае хадэцкае кухні — „Беларускае Крыніцы — Biełaruskaje Krynicy".

Але, як ведама, за кулісамі тэатраў,—асабліва розных фарсова-опэрэтачных,—здараюцца скандалы. Здарыўся скандал і за кулісамі хадэцыі ў апанованай ёю фірме „Нацком".

3-га гэтага ліпня грамадзянінам М. Манцэвічам выдана ў Вільні аднаднёўка „Выясьненьні", з якой даведваемся, што ўжо блізка месяц таму з Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту выйшаў пасол Ярэміч, б. сэнатар Багдановіч і яшчэ некалькі асоб аў не хадэцкага лягеру.

Камічна, наагул, што гэтыя „антыхадэкі" *выйшлі* з Нацкому, а ня былі *адкліканы* дэлегаваўшымі іх у гэты хадэцкі Нацком партыямі ці арганізацыямі: 7-га чэрвеня с. г. яны з Нац. К-ту выйшлі, аб чым 10-га таго-ж чэрвеня даручылі прэзыдыуму БНК сваю заяву, зьмешчаную цяпер на першым пляне ў „Выясьненьнях".

Здавалася-б, што калі нехта ў які-небудзь цэнтр *дэлегуецца*, дык пакінуць гэты цэнтр можа ён тады, калі той, хто яго дэлегаваў, *адкліча* яго.

Ну, але гэта ўжо ўнутраная справа тых інстытуцыяў, якія дэлегавалі ў хадэцкі Нацком усіх, хто цяпер з яго выйшаў ды выясьняе гэта ўсім, усім, усім...

Хоць вельмі магчыма, што ў хадэцкую „цэнтралю" усё пасвойму неяк *дэлегуецца* і пасвойму *адклікаецца...*

Грам. М. Манцэвіч—прадстаўнік рэдакцыі „Беларускае Борці" — даўжэзным артыкулам „Колькі слоў праўды" выясьняе, як ён да хадэкаў (па прастаце душы) папаў і як адтуль выйшаў. Грам. Манцэвіч у 1934 г. „даў сваю згоду" (ня кажа каму) „на ўваход у Камітэт, прымаючы мандант ад рэдакцыі „Самапомачы", у якой... у той час *пробаваў (?) супрацоўнічаць*"... (курсыў наш—Рэд.).

Грам. Манцэвіч так проста і прамаргаў, што „Самапомач"— рэдакцыя кіраўнка хадэцкага касьцельнага хору — зьяўляецца найбольш блізкім сатэлітам хадэцыі— гэтага цэнтральнага сьвяціла ў констэляцыі Нацкому.

Не дагледзў грам. Манцэвіч мусі і таго, што сама Хадэцыя не складае самастойнае сыстэмы, не адсьвечвае сьвятлом незалежнае беларускае газоўкі, а зьяўляецца *паўночнаю зарніцаю*, бо сьвятло сваё ўбогае чэрпае з *чагось*, паложанага на поўнач ад Вільні.

А таму пэўна і адбывалася ў хадэцкім Нацкоме „калектыўнае марнаваньне часу", аб якім цяпер сьведчыць грам. Манцэвіч у сваіх „Выясьненьнях".

Грам. Манцэвіч быў нават дапушчаны (відаць на ролю Молчаліна з грыбаедаўскага *„Горя от ума"*) у прэзыдыум Нацкому, з якога мусіў выйсьці, як толькі папрабаваў *„сметь свое сужденіе иметь"*.

У пасла Ярэміча разгарэўся з хадэкамі ды рознымі іх *„луннымі сіяніямі"* конфлікт цераз яго прамову ў Сойме 6 лютага с. г., якую хадэкі кваліфікавалі ў „Б. Крыніцы", як *полёнафільскую.* Прамова гэтая (ў вельмі благім белар. перакладзе) зьмешчана ў „Выясьненьнях" і *выясняе* яна толькі адно: ніякага полёнафільства ня знойдзе ў ёй нават ноторычны беларускі незалежнік; прамова гэтая такая, што яе, бяручы агулам, мог-бы сказаць кожны беларус, калі-б на яго долю выпала прадстаўляць наш народ не ў Нацкоме, а ў Польскім Сойме.

Тут зьмест фокусу ня зусім ясны і яго найцікавейшая часьць дасюль яшчэ сядзіць недзе ў самай глыбіні хадэцкіх кулісаў.

Грам. Багдановіч, як праваслаўны дзеяч, парваўшы з каталіцкаю хадэцыяй, выкрывае, невядомыя нікому дасюль, зусім *нехрысьціянскія* і зусім *недэмакратычныя* фокусы галоўных магаў Нацкому ў галіне хадэцкае „праваслаўнае палітыкі",—робленае цераз *двух*, заангажаваных у Нацком, „маладых студэнтаў", праваслаўных (трэба думаць) па веры,—бяз ніякага нават ведама самога старшыні былое нацкомаўскае праваслаўнае камісіі — грамадзяніна... Багдановіча. А „Бел. Крыніца" не зьмяшчала нават ніякіх пісьмаў у рэдакцыю, калі пісьмы гэтыя разыходзіліся—скажам моцна — з хадэцкаю „генэральнаю лініяй".

„Выясьненьні" пацьвярджаюць усе дагадкі аб хадэцкіх штучках, пацьвярджаюць і развал ужо ня толькі хадэцкага Нацкому, але і этычны заняпад самое хадэцыі.

А можа літвафільская „Бел. Крыніца" яшчэ раз напіша, што гэта не развал, а ўзмацненьне?

Захоча — напіша, але хіба толькі наіўныя прасьцячкі можа і паверыць.

*Pauper.*

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22, Тел. 21-14.